Самапомач Гаспадаў

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 15 (68).
Год VI.
Вільня.
25.IX.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.

# Пачынаем школьны год!

Ужо месяц, як пачаўся новы школьны год. На ўсім сьвеце дзеці вучацца наўперад у тэй мове, у якой яны гутараць з малых дзён. Беларускія дзеці паводле гэтага мусілі-б і ў нас вучыцца пабеларуску. А як ёсьць у сапраўднасьці — кожны больш менш ведае. На мільён з лішнім афіцыяльна польскімі ўладамі запісаных беларусаў, існуе фармальна 60 пачатковых школ, у якіх „беларускі язык прыняты пад увагу." Як гэта „ўвага" выглядае ў жыцьці, ведаюць тыя сяляне, якія такую школу ў сябе маюць. Уся рэшта беларускіх дзяцей вучыцца ў школах польскіх, калі ў такіх ёсьць вольнае месца. З васьмёх да нядаўна беларускіх гімназіяў асталася толькі адна адзіная Беларуская Філія Дзяржаўнае Гімназіі ім. Юл. Славацкага у Вільні, якая ня можа зьмясьціць і паловы тых кандыдатаў, якія хацелі-б вучыцца пабеларуску.

Гэткі стан сягоньня. Трудна верыць у хуткую паправу у найбліжэйшай будучыні, калі-б заіснавалі нават найлепшыя вонкавыя ўмовы. І таму адзіны для нашай беларускай моладзі спосаб дапоўніць асьвету, агульную і фаховую, гэта **самаасьвета.**

Ёсьць аднак і тут адна важная перашкода, перамагчы якую трэба прыгатавацца супольнымі сіламі. Асьвета і самаасьвета, гэта бязмежнае мора, гэта блудны лес, у які боязна запускацца без праводніка. Такім натуральным праваднікам мусілі-б быць нашы беларускія культурна-асьветныя арганізацыі, як Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ці Т-ва Беларускае Школы. Абедзьве гэтыя арганізацыі, нажаль, дзесяць месяцаў ужо як стаяць апячатаныя польскімі адміністрацыйнымі ўладамі, а аб арганізаваньні падобнай арганізацыі новай, тымчасам канкрэтнага нічога ня чуваць.

Як-жа тады быць?

З канешнасьці трэба адклікнуцца да людзей добрай волі, якія адны-адзіныя маглі-б тут быць памоцнымі. Пад іхнім вокам павінны былі-б беларускія дзеці навучыцца пачаткавай беларускай граматы з беларускіх лемантароў: „Першыя зернятки" (літарамі гражданкі) і „Zasiejki" (лацінкай, калі выйдуць ў другім выданьні пасьля канфіскаты). З гэтых лемантароў павінны вучыцца чытаць і пісаць пабеларуску як тыя беларускія дзеці, якія хоць і ходзяць у школу, але там пабеларуску нічога ня вучацца, так і тыя, якія з тых ці іншых прычын (напр. з прычыны перапоўненьня школы) наагул у ніякую школу ня ходзяць.

А далей?

Пры сяньняшняй галіце трудна вымагаць, каб нехта такі знайшоўся, хто ўзяўся-б за апрацаваньне, а тымбольш выданьне друкам усыстэматызаванай бібліятэкі самаасьветы. Таму на пачатак, па нашаму, трэба было-б выкарыстаць тыя выданьні беларускіх падручнікаў, якія ўжо ёсьць. Не дастасаваны яны да завочнага навучаньня, гэта праўда. Таму патрэбны быў-бы на пачатак адзін скромны пачын: агульна-беларускі фаховы **дарадчык самаасьветы,** у якім падаваліся-б: а) фаховыя рады аб тым, як з існуючых выдавецтваў карыстаць і б) адказы ды тлумачэньні тых мясцоў з існуючых падручнікаў, якія навучаючымся паказаліся-б незразумелымі: гэткія мясцы трэба публічна тлумачыць у друку, каб з гэтага маглі карыстаць усе, да каго „дарадчык" дойдзе. Сам „дарадчык" мусіў-бы быць асобным выдавецтвам, ці прынамся аддзелам у нейкім з выдавецтваў існуючых.

Гэтулькі пазволілі мы сабе сказаць аб патрэбе асьветы і спосабе яе здабываньня. Ня маем прэтэнсыі да арыгінальнасьці гэтага помыслу як ня можам самі беспасярэдна за гэту справу ўзяцца; але супрацоўнічалі-б, у меру нашых скромных сіл, вельмі рады і ахвотна. Уважаем, што пытаньне народнай асьветы павінна цікавіць кожнага беларуса; тымбольш-жа павінна гэта цікавіць беларускага гаспадара-з е м л я р о б а, які без асьветы ніяк не дагоне таго дабрабыту, якім жыве земляроб заграрнічны і на які наш чалавек мае поўнае права.

Дык усе за асьвету: хто менш умее—каб навучыцца, а хто больш—каб памагчы.

# „Самапомач“ за дарма!

*Хочучы памагчы нашай беларускай перадусім моладзі, якая жадала-б паглыбіць свае пазнаньні з землявробскай гаспадаркі і ня мае на гэта адпаведнай літаратуры, рэдакцыя „Самапомачы“ пастанавіла ДАРМА раздаць частку гадавікоў „Самапомачы“ за мінулыя гады паміж тых сваіх сталых падпішчыкаў, якія прышлюць нам адну залатоўку на пакрыцьцё коштаў перасылкі.*

*А знача, хто да 1.XII сёл. аплаціць падпіску за сёлетні 1937 год і прышле акрамя таго залатоўку на перасылку, той акрамя сёлетняга часапісу д а р м а атрымае йшчэ д в а г а д а в і к і „Самапомачы“ за мінулыя гады. Да рассылкі маем гадавікі за гады: 1933, 1934, 1935 і 1936. Пры перасылцы грошаў трэба паказаць з якіх двух гадоў хто хоча атрымаць гадавікі. Хто цэлую сёлетнюю падпіску аплаціў, а хоча атрымаць гадавікі з мінулых гадоў, той павінен прыслаць толькі адну залатоўку, з азначэньнем „на гадавікі“.*

*Дык карыстайце з рэдкай аказіі, якая больш не паўторыцца. Паведамце аб гэтым сваіх суседзяў і знаёмых. Ведайце, што кожны гадавік гэта самастойная гаспадарская чытанка: знойдзеце там цікавыя і карысныя рады аб гаспадарцы палявой, сенажатнай, гадаўлянай, малачарскай, вэтэрынарнай помачы, аб хатняй гаспадарцы, жаноцкай і г. д. — Карыстайце!*

*Выдавецтва «Самапомачы».*
*Вільня, Завальная 1.*

# Закон аб „правільным севазвароце“ ў БССР.

Газэты падаюць, што цэнтральныя савецкія ўлады забавязалі ўлады Савецкай Беларусі „ўстанавіць у трохгадзічны тэрмін правільныя севазвароты па калгасах БССР і забясьпечыць пераход усіх калгасаў не пазьней трохгадовага тэрміну да пасеваў сгрога ў адпаведнасьці з устаноўленымі севазваротамі“.

Як відаць з гэтага, Саветы консэквэнтна абмяжоўваюць прыватную ініцыятыву ня толькі фізычных „асабнякоў“, якія ня йдуць у колектывы, але й самыя колектывы змушаюць законам працавацьтак, як ім накажуць згары. Гаспадарчы рэзультат гэткага падыходу да справы можа й будзе добры, але з гэткай мэтодыкай працы згадзіцца ня можна. Раз, што пры гэткім „прадпісаньні“ можа разгуляцца неаграніčаная бюрократыя, а далей — самымі толькі загадамі й законамі людзей не пераўзгадуеш. Тут патрэбны не законы й наказы, а сьведама ўзгадаваная вольная воля.

## Узноў хатняя „вайна“

Чытачы нашы ўжо ведаюць аб тым, што „соймік“ Віленска-Троцкага павету, састаўляючы анагдай свой **бюджэт** на 1938 г., зусім абмінуў выдаткі на ўспамогу „самавыстарчальных“ „Кулкаў Рольнічых“, а за гэтыя грошы пастанавіў весьці культурную і інструктарскую працу на свой „рыск і страх“. На гэткі крок рашыўся названы „Соймік“ пад беспасярэднім ці пасярэднім уплывам ген. Жэлігоўскага.

Гэткі крок, хоць ён тымчасам абняў адзін павет, вельмі загразіў існаваньне „Кулак Рольнічых“, якія хоць усюды кругом хваляцца, што працуюць за свае собскія грошы, то аднак цяпер паказалася, што на кожную залатоўку выдаткаў, кладуць яны з собскіх грошаў толькі 3 (тры) грашы. Зразумелая рэч, што ўсе „кулковічы“ цяпер апынуліся ў надта нявыгодным палажэньні: маўчаць яны ня могуць, бо ім „вада ліецца ў боты“, а й крычаць няма як, бо ім гэту штуку падстроіў ня хто іншы, як генэрал Жэлігоўскі, якога яны дагэтуль усюды хвалілі і вынасілі.

Рэч зразумелая, што пад гэты шумок розныя дзяльцы ўжо стараюцца пячы свае бліны. Вот-жа з гэтае прычыны лічым за абавязак перасьцерагчы нашых чытачоў, што „вайной“ гэтай ня трэба лішне праймацца. Ад таго толькі, што падаткавымі грашмі нашага-ж сяляніна будуць распараджацца гмінныя самаўрады, замест „кулковічаў“, ніякага йшчэ паляпшэньня спадзявацца ня можна. Уся рэч у тым, хто ў гмінных Радах ці ў „кулках“ сядзіць і распараджаецца грашамі. Калі пры грашох сядзяць людзі разумныя, свае, то дзе-б яны не сядзелі, усё роўна будуць рабіць сваё. Таму ня можна чакаць паправы ад таго толькі, ці грашмі на землявробскую асьвету і працу будзе гаспадарыць „кулка“ ці сама гміна. Грош наш не змарнуецца тады толькі, калі ім будзе гаспадарыць тутэйшы свой чалавек, які з гаспадаркі не захоча рабіць палітыкі, а тым больш палітыкі чужой.

# In memoriam Arnošt Dadàk.

*„Pracuj pilna — i tut Vilnia“.*

Redka na kim mohuć spraŭdzicca vyšejuspomnienyja słovy našaj biełaruskaj prykazki tak, jak jany spraŭdžajucca na asobie niabožčyka Arnošta D a d a k a, słaŭnaha českaha s i a l a n s k a h a vydaŭca, redaktara i pramysłoŭca, pamioršaha 9-ha žniŭnia siol. ŭ moraŭskaj vioscy Milotice nad Bečvou ŭ Čechasłavaččynie.

Asoba i dziejnaść hetaha čałavieka tak cikavy, što varta z im paznajomić i čytača-Biełarusa.

Arnošt Dadak — syn viaskovaha mielnika radziŭsia ŭ 1858 h. Vyvučyŭšysia na vučyciela, pracavaŭ u pačatkavaj škole praz cełych 27 hadoŭ, z hetaha praz apošnija 23 hady — jak kiraŭnik školy ŭ vioscy Milotice n/B (Morava). I tut, žyvučy siarod pryrody, zdalok ad vialikamiestavaha i fabryčnaha šumu, A. Dadak, jak nia možna lepš padhledziŭ i zrazumieŭ patreby vioski. A zrazumieŭšy, nie astaŭsia hłuchim. Nie zamykajučysia ŭ ścieny samoj tolki školy, u katoraj i biez taho vychavaŭ cełyja pakaleńni sialanskich dziaciej, jon zasnavaŭ na pačatak dva hramadzka-palityčnyja dvutydnioviki, da adnaho z jakich u 1889 h. dadaŭ haspadarska-ziemlarobski dadatak „Haspadar“, jaki paśla pieratvaryŭsia ŭ niezaležny haspadarska-ziemlarobski časapis „Miloticky Hospodar“. Časapis hety sioleta vychodzić užo 48-my hod, źjaŭlajučysia žyvym prykładam taho, čym moža stacca časapis, kali jon umieła i achviarna viadziecca. Śmieła skazać možna, što siahońnia ŭ cełaj pastupovaj ziemlarobskaj čechasłavaččynie niama druhoha tak pašyranaha siarod d r o b n y c h ziemlarobaŭ haspadarskaha časapisu, jak „Miloticky Hospodar“, choć za im nie staić nijakaja arhanizacyja, jakaja-b jaho prapahavała ci prosta zahadvała vypisyvać i čytać. I heta nia tolki siarod čechaŭ u krai, ale i na čužynie.

Ale zaŭsiady tvorčy duch A. Dadaka nia spyniaŭsia na adnym tolki časapisie; jon ŭ 1902 hodzie pačaŭ vydaviectva kišankovaha kalendara, a ŭ 1903 h.— druhi svoj časapis „Prakticky Radce“ (praktyčny daradčyk) praznačany specyjalna dziela hadoŭli drobnaj haspadarskaj žyvioły i aharodnictva. Urešcie ŭ 1921 hodzie pačaŭ jon stałaje vydaviectva „Vialikaha zabaŭna-pavučalnaha kalendara“. Aprača hetaha z biezpasiarednaha nahladańnia viaskovaha žyćcia, A. Dadak bačyŭ, jakoj knižki da čytańnia hetaja vioska patrabuje. I z hetaha miarkavańnia jon vydaŭ 56 asobnych knižak.

Padsumoŭvajučy ŭsiu vydavieckuju čynnaść niabožčyka i paraŭnoŭvajučy jaje z časam prabudžeńnia českaha narodu, bačym, što niabožčyk byŭ pašyralnikam ziemlarobskaha postupu i aśviety ŭ paru, kali adčuvaŭsia jšče vialiki niedastatak českaj litaratury.

Jak ni važnaj sama ŭ sabie była vydavieckaja čynnaść A. Dadaka, jak ni vialikija byli jahonyja piśmieńnickija zdolnaści (prosty, vyrazny styl), nia mienšym byŭ jon i psycholoham. I heta ŭ vialikaj miery

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Заарэце поле!

Сёлетняе лета і восень і „нявверных Тамашоў“ хіба перакана-юць аб тым, як гэта кепска не ўзараць сьвежага аржышча, пакуль у яго плуг мог яшчэ лёгка ўрэзацца. Сягоньня ўсё высахла і поля ані „ўгрызьці.“ Але на гэтым не канец, бо неўзаранае поле ня толькі што ня прыносіць ніякай карысьці, але яно дасло̆уна пустуе. У зьбітую глебу ня можа дастацца паветра, без каторага ня могуць жыць у ёй міліярды бактэрыяў, якія пераварываюць глебу пад ураджай на наступны год. Таму ня можна пакінуць поле неараным на зіму, а нават ня можна з гэтым чакаць да познай восені, бо тады бактэрыі не пасьпеюць ужо выканчыць свае „кухарскае“ работы.

Гэта найпільнейшая справа. Цяпер аднак трэба думаць і аб дальшым выпрабляньні глебы, аб вычышчаньні яе з пырніку і наагул з пустазельля. У сухую пагоду, як сёлета, трэба ўпоперак узаранага поля праехаць культыватарам і выдзерці пырнік. У мокрым годзе трэба гэта рабіць бараной, якая зазелянелы пырнік толькі аслабіць.

Ня можна пакінуць неўзараным нават бульбянішча, на якім можна здаволіцца ўзараньнем ня лішне глыбокім, бо тут зямля і так ня бывае зьбітай. Хоць гэткае ўзараньне бульбянішча і ня так важнае, як важным напрыклад ёсьць узараньне поля, на якое на другі год прыйдзе бульба, ці морхва, то аднак і такія расьліны, як ячмень, пшаніца-ярыца, гарох, авёс, раньнія пашныя мешанкі так-жа патрабуюць зімовай воркі.

Урэшце зімовая ворка пад акопніны. Калі глеба глыбокая (добрая), дык арэцца яна цяпер да поўнай глыбіні. Глебы плыткія, гэта знача такія, пад якімі блізка ёсьць жалезныя (рудыя) прымесі, ня можна ані цяпер араць глыбей як 10—15 см.: рэшту паглыбіць можна і трэба ня плугам, а сумя сным спульхнячом. Гэтак спульхненая падглебе і глеба больш усысае ў сябе зімовай вогкасьці, якая так-жа больш роўнамерна пасьля будзе выпароўвацца. Як ворку, так і паглыбляньне ня можна праводзіць у зямлі мокрай, а толькі ў вільготнай. У праціўным разе ў глебе патворацца дзюры, у каторых карэньне расьлін будзе засыхаць. Калі й гэту ворку прыйдзецца выконываць у пару сухую, дык практыка паказала, што лепш пульхніцца зямля, калі конь ідзе шпарка, чым калі-б ён ішоў памалу.

Аручы зімовую баразну пад акопніны данядаўна радзілі выкарыстываць і для зааранья гною. Пасьля таго аднак, як аказалася, што заворываньне сьвежага гною— а цяпер ёсьць пад рукой толькі гной сьвежы, неперапрэлы — нічога не памагае, а навет шкодзіць,— гэткага паляваньня за двума зайцамі трэба зрачыся. Тымбольш, што пры зімовай ворцы гной заворываўся б лішне глыбака. Нічога тут не паможа нават укладаньне гною граблямі за плугам да паловы баразьнянай ськівы. Лепш будзе вывезьці перапрэлы гной вясной і на лёгкіх грунтох прыкрыць культыватарам, а на цяжэйшых — мелкай баразной.

Гаворачы аб араньні на зіму, ня можна забывацца аб патрэбе перагонных барознаў, якія адводзілі-б лішку вады і не дапускалі-б да зьбіраньня вады ў серадпольных катлінах.

С. Я—іч.

## Хто адказвае за жывёлу пры прадажы?

Вельмі часта здараюцца выпадкі непаразуменьня паміж прадаўцамі і кугляючымі жывёлу, калі па нейкім часе купец сьцьвердзіць, што жывёла хворая. Справу адказнасьці пры прадажы жывёлы па станаўляе кодэкс забавязаньняў, каторага арт. 333 кажа гэтак:

„§ 1. Прадавец адказвае толькі за галоўныя недахопы і то толькі ў такім выпадку, калі гэтыя недахопы пакажуцца на працягу за конам азначанага часу.“ (Dz. U.R.P. № 82. poz. 598, 1933 г.). Галоўныя недахопы і срокі, у якіх прадавец адказвае, мае азначыць міністр земляробства. Распараджэньне-ж міністра земляробства з дня 25 чэрвеня 1934 г. пералічае тыя галоўныя недахопы і срокі, у якіх прадавец адказвае за прададзеную жывёлу (Dz. U.R.P. № 57, poz. 505).

Галоўнымі недахопамі жывёлы зьяўляюцца:

**а) У коняў:**

1. Дыхавіца — выпадкі ўтрудненага дыханьня, выкліканыя хранічнаю (сталаю) невылячальнаю

---

žviazvała i dahetul viaža čytača z jahonym časapisam. A Dadak kiravaŭsia zasadaj, što „słovy vučać, ale prykłady paciahvajuć“. Z hetaje pryčyny niabožčyk pieratvaryŭ svaju redakcyju ŭ nahladnuju škołu. Jak? Pry redakcyi sarhanizavaŭ jon prykładny sad. Jošć tak-ža pry redakcyi i prykładnaje pole, dzie pradusim vypraboŭvajecca ŭsio toje, ab čym sam časapis piša i da čaho zaklikaje svaich čytačoŭ. Prosta kažučy jošć heta prykładnaja haspadarka, u jakoj kožny moža pabačyć blizu ŭsio toje, ab čym pračytaje ŭ časapisach samaha vydaviectva.

Ale j heta nia ŭsio. Z postupam u haspadarcy spałučana ŭžyvańnie roznaje haspadarskaje snaści i mašynaŭ. Na tuju paru pačynańnia, a tymboĺš u siahońniašniaj čechasłavaččynie jošć davoli fabrykaŭ haspadarskaj snaści. Usie jany adnak majuć najčaściej toj niedastatak, što prystasavany da varunkaŭ pracy ŭ haspadarkach siarednich i bolšych. Vot-ža A. Dadak, pracujučy ŭ svaich časapisach prad usim dla haspadarak drobnych, nia moh nie zaŭvažyć patreby adpaviednaj snaści dla svaich čytačoŭ — drobnych sialan i batrakoŭ. Z hetaj metaj załažyŭ jon u tym-ža siale Miloticach kooperatyvu „Haspadar“, u jakoj spačatku j vyrablaŭ snašć samuju prostuju, pierachodziačy z časam da vyrablańnia ŭsiaho, što tolki ŭ haspadarcy patrebna. Siahońnia kooperatyva „Haspadar“ vyrablaje ŭsiakuju snašć i mašyny patrebnyja ŭ ziemlarobstvie (płuhi, kosy, barony, siačkarni, małatarni, vahi, młynki, kapački, parniki), u veterynaryi, u sadoŭnictvie j aharodnictvie, u haspadarcy chatniaj i šmat-šmat što inšaje.

Dziejnaśći A. Dadaka paza ziemlarobstvam tut nie pieraličajem umysna: — pierachodziła-b heta kruh našaha zainteresavańnia. Što adnak heta dziejnašć nia była małoj, vidać choć-by z taho, jak mnohalikim było ŭčaście ŭ pocharanach niabožčyka. U žałobnym pachodzie pryjmała ŭčaście da 3.000 (troch tysiač) asob, nad katorymi lacieła ŭ pavietry 13 stalovych ptušak-aeraplanaŭ.

Kančajučy hety skaročany pierahlad ziemlarobska-haspadarskaj dziejnaśći Arn. Dadaka, nia možna nie padčyrknuć pavučalnaje z hetaha značeńnie jak dla šyrokich masaŭ biełaruskich ziemlarobaŭ, tak i dla našaje intelihiencyi. Dla šyrokich ziemlarobskich masaŭ asoba niabožčyka pavinna być symbolem taje viery, jakoju abdaroŭvajuć čałavieka ŭsiocela addadzienaha słužbie narodu. Dla biełaruskaj-ža intelihiencyi Arn Dadak heta žyvy prykład taho, što moža zrabić asiełaja naviet na „hłuchoj vioscy“ ludzkaja adzinka, kali jana pracavać sapraŭdy choča.

Chaj-ža duch Arn. Dadaka pabudžaje i našu viaskovuju biełaruskuju intelihiencyju da tvorčaj pracy dla svaje biełaruskaje vioski!

A. K.

хваробаю лёгкіх або сэрца. Срок адказнасьці 14 дзён.

2. Дыхавіца з сьвістам — выпадкі цяжкага дыханьня, прычына якіх невылячымая хворасьць горла. Срок адказнасьці 14 дзён.

3. Лыкавасьць усіх відаў. Срок адказнасьці 14 дзён.

4. Насацізна, якая сьцьверджаецца на падставе вонкавых азнакаў, або пры помачы абавязуючых мэтодаў разсьледаваньня. Срок адказнасьці 21 дзень.

5. Часовае запаленьне вачэй (хвароба ўнутраных часьцей вока, частквая сьлепата). Срок адказнасьці 14 дзён.

6. Крутагалоўе — невылячымая хвароба. Срок адказнасьці 14 дзён.

б) У рагатай скаціны:

1. Сухоты ў форме адкрытых сухот вым'я... Срок адказнасьці 21 дзень.

2 Зараза лёгкіх. Срок адказнасьці 28 дзён.

в) У авец:

1. Кароста. Срок адказнасьці 14 дзён.

2. Ягульная вадніца, сільна разьвітая. Срок адказнасьці 14 дзён.

г) У сьвіней:

1. Мор сьвіней. Срок адказнасьці 10 дзён.

2. Рожа сьвінячая. Срок адказнасьці 3 дні.

3. Вуграватасьць шкадлівая для людзей. Срок адказнасьці 14 дзён.

4. Трыхіна (валасяньніца). Срок адказнасьці 14 дзён.

Срок адказнасьці пачынаецца ад хвіліны перадачы жывёлы.

За іншыя недахопы ці хваробы прадавец адказвае толькі тады, калі такую адказнасьць выразна сам на сябе ўзяў.

Інж. А. Адамчук
*„Сіль. Госп."*

## Прад залажэньнем саду.

Садовыя дрэўцы можна садзіць як увосені, так і вясной. Дзеля таго аднак, што пры восеньскім саджэньні зямля пасьпее да вясны ўляжацца, а няўнікнёныя раны на галінах і на карэньні пасьпеюць да вясны зарасьці, дзеля таго восеньскае саджэньне выдаецца больш выгодным. Гэтак саджаныя дрэўцы менш церпяць ад сушы і таму лепш прыжываюць. Калі дрэўца здаровае і добра пасаджанае, дык ад восені да вясны яно звычайна пачынае ўжо расьці, падчас калі дрэўца пасаджанае вясной заўсяды мусіць нейкі час перахварэць, а калі трапіцца благая пагода, дык можа й згінуць.

Садзіць фруктовае дрэўца можна да познай восені, да маразоў. Калі земляроб мае час, дык будзе вельмі добра (але не канешна), калі ямы выкапае ўжо цяпер. Пры капаньні дастаецца наверх крыху „дзікой зямлі". Таму верхні пласт зямлі трэба здыймаць і класьці асобна ад пласту сподняга, „дзікога". Гэта сьвежа-выкапаная „дзікая" зямля, лежачы колькі тыдняў наверсе, пакуль будуць садзіцца дрэўцы, праветрае, а спажыўныя сучасткі ейныя падасьпеюць і станушча гатовым кормам для новазасаджанага дрэўца.

Вельмі важнай справай ёсьць знайсьці добрыя ўшчэпы. Ясна, што йгрушкі на вербе не растуць нават пры найбольш старанным даглядзе. Таксама не дачакаемся карысьці з саду, у якім растуць благія сарты дрэваў. А на гэта найчасьцей не зварочваюць людзі ўвагі. Гонячыся за танным закупам, купляюць людзі на маламестачковых кірмашох усякі тавар, абы толькі быў танны. Тымчасам трэба зразумець, што выгадавеньне здаровага й добрага фруктовага дрэўца вымагае коштаў. З насеньня вырастае спачатку дзічка, якую трэба спачатку шчапіць, пасля гадрэзваць бакавыя сучкі, хаб вывесьці сільны пень і ўфармаваць карону, пасьля — выкапаць, запакаваць і г. д. Ад часу севу праходзіць звычайна ня менш 3-х гадоў*), у працягу якіх уласьнік школкі аплачвае падаткі, работнікаў, і г. д.



**Нармальны спосаб саджэньня дрэва.**

*) Новачасныя садаводы цьвердзяць, што найлепшыя ўшчэпы 2—3 гадовыя — рэд.

## Jak haspadarać italjancy?

U štodziennym žyćci siahońnia časta staŭlajucca nasuproć siabie: haspadarka balšavikoŭ i haspadarka fašystaŭ. Pry hetym balšavickaja haspadarka ahulna ŭvažajecca haspadarkaj kolektyŭnaj (kałhasy, saŭhasy i naahuł „kamuna"), dzie niama nijakaj pryvatnaj ułasnaści, a haspadarka fašystaŭ ahułam pradstaŭlajecca tak, jak byccam była-b pabudavanaj na pryncypie nieabmiežavanaj pryvatnaj ułasnaści. Nia vykazvajučysia tut ani *za* ani *prociŭ* nieahraničanaj pryvatnaj ułasnaści i pakidajučy tymčasam na staranie sposaby haspadarki balšavickaj, skarystajem tut z cikavych viestak ab haspadarcy ŭ krainie klasyčnaha fašyzmu—ŭ Italii.

Pieršaj haspadarska-ziemlarobskaj reformaj italjanskich fašystaŭ byŭ „boj za ziarno," *„battaglia del grano,"* ci vyraźniej kažučy — starańnie ab pavialičeńnie ŭradžaju pšanicy. Heta „batalija," pad najšciślejšaj kantrolaj orhanaŭ fašystaŭskaj partyi, tryvaje da siahońnia. Kab u praciahu najbližejšaha dziesiacihodździa stacca samavystarčalnaj i niezaležnaj ad pryvozu z zahranicy charčavych praduktaŭ, Italija vialikim koštam systematyčna pačała asušvać niapryhodnyja dahetul bałoty, navadniać miascy suchija, zasadžvać lesam pustynnyja horskija i prybiarežnyja abšary, pieramianiajučy ich u ćvitučyja sady.

U hetym kirunku zroblena ŭžo davoli mnoha, čas pieršaj „dziesiacihodki" daŭno minuŭ, ale pradbačanaja meta — samavystarčalnaść — jašče vielmi daloka. Niadaŭna, bo ŭ kancy lipnia sioleta, kali ŭradžai byli ŭžo „pad strachoju", ministr ziemlarobstva Rossoni zajaviŭ, što choć sioletnija ŭradžai pšanicy (80 miljonaŭ q) i chopiać na pakryćcio nutranaha zapatrebavańnia Italii, to adnak pryvoz charčavych praduktaŭ u pieršaj pałovie siol. hodu, u paraŭnańni z hodam letašnim, taksama vielmi ŭzros: z 181.700 tonaŭ*) zboža vartaści 83.523.564 liraŭ**) uzros na 1.164.406 tonaŭ vartaści 946.881.671 liraŭ. Choć hetak usileny pryvoz charčoŭ i apraŭdyvajecca „niavidomymi" pryčynami rableńnia zapasaŭ „na ŭsiaki vypadak," to praŭdaj adnak astaniecca i toje, što Italija ad mety svajej — samavystarčalnaści znachodzicca jašče vielmi daloka.

Charčavyja zapasy ŭ Italii źbirajucca aficyjalna „dabravolna," a ŭ praktycy tam jość da hetaha abaviazak, zvany „ammassi." Pad hetym nazovam skryvajecca abaviazak addavańnia ŭsich uradžajaŭ kaźnie, jakaja sabranyja zapasy mahazynuje i pierachoŭvaje. Dla kožnaha hatunku zboža jość svaje asobnyja pradpisańni. Hetak napr. najhałaŭniejšy pradukt u Italii, pšanica, pavinna być addadziena ŭ mahazyn u pracia-

*) tona maje 1.000 kilo ci 61 pud.
**) lira — heta italjanskaja hrašavaja adzinka.

Некаторыя сарты вымагаюць падвойнага шчапленьня. як бачым, гэтыя кошты бываюць не малыя і калі гандляр прадае такое дрэўца за колькі грашоў, дык згары можна быць пэўным, што нічога добрага ад яго ня купім. А па некалькіх гадох, калі такое дрэўда пачне радзіць, праканаемся, што куплены ўшчэп ня мае ніякай вартасьці і танная на пагляд цана аказалася вельмі дарагой. Дзеля гэтага купляць ушчэп трэба ў фірме пэўнай, якая ручаецца, што прадаваны ўшчэп ёсьць таго гатунку, за які прадаецца, а так-жа што дрэўца ёсьць здаровае.



**Спосаб саджэньня дрэва ў месцы мокрым.**

Зразумелая рэч, што справа цаны была, ёсьць і астанецца вельмі важнай. Ня можна аднак гэтай справы вырашаць уадзіночку. Вялікія і добрыя фірмы, праўда, часта вельмі неахвотна прадаюць ушчэпы ў дэталі, а калі й прадаюць, дык робяць гэта так, каб мець самым як найбольш карысьці, гэта знача — дарага. Дзеля гэтага найлепш лучыцца некалькім гаспадаром у супалку і купляць (выпісваць) разам, на супольны рахунак. У гэткім выпадку, калі напр. зьбярэцца заказьнікаў на 100 дрэўцаў. дык цана аднаго дрэўца нават найлепшага гатунку звычайна не перавышае 2 (дзьвюх) залатовак.

Урэшце трэба памятаць, каб ня купляць тых кволых гатункаў ушчэпаў, якія нашых атмосфэрычных варункаў ня могуць перанесьці. Таму трэба быць асьцярожным пры купляньні тых гатункаў ушчэпаў, якія вырасьлі нейдзе далёка і найлепш купляць такія сарты, якія ў нас аддаўна растуць.

**В. Р.**

## Кармленьне бульбаю

У шмат мясцох сёлета не ўрадзіла паша, але даволі ёсьць бульбы, якою і трэба гэты недастатак латаць. Тым большага значэньня набірае бульба там, дзе неўраджаі пашы здараюццаа часьцей. Таму трэба забясьпечыць ўраджай бульбы ня толькі на сёлета, але й на далей. Найтанейшым і найбольш пэўным на гэта спосабам ёсьць падбор насеньня з сёлетняга ўжо ўраджаю. Асобна трэба адкладаць бульбіны спад здаровых многалічных каліваў і асобна іх пераховваць аж да вясны. Усе-ж бульбіны хворыя, паплямленыя, пакалечаныя і г. д. трэба складаць асобна, празначаючы іх да неадкладнага спажыцьця. Падбіраючы штогод насенную бульбу можна вельмі паважна падняць ейныя ўраджаі, не павялічваючы абшару засеву. Гэтак можна забясьпечыцца прад неспадзеўкамі галодных гадоў, такіх, як не ў адным месцы ёсьць год сёлетні.

Бульбаю можна карміць усякую жывёлу, ня выключаючы хатніх птушак. Каровам даецца бульба найчасьцей сырая, пасечаная і перамешаная з сечкай. Сьвіням і коням даецца бульба вараная ці параная, ці нават печаная. Утрыманьне каня ўзімку, калі ён зусім не працуе, бывае звычайна вельмі каштоўным. Але й тут можна застасаваць бульбу, што вельмі абніжае кошт утрыманьня; тымбольш, што пры кармленьні бульбай і ня вельмі цяжкай працы конь можа ўтрымацца і круглы год. Для каня бульба павінна быць добра спараная, астуджаная і перамешаная з сечкай. Усякія недаедзеныя рэшткі трэба з жлабоў выбіраць, каб не квасьнелі. Дзеля гэтага самага трэба ад часу да часу жлабы вымыць вапеннай вадой. Бульба мала вымешаная з сечкай, занячышчаная зямлёй, а тымбольш заквасьнеўшая можа быць прычынай небясьпечных колькаў. Таму захаваньне чыстаты пры кармленьні бульбаю ёсьць справай вельмі важнай і канешнай.

Пры кармленьні каня бульбаю канешнай ёсьць якая-небудзь закладка — найлепш мурожнае сена або проста канюшына. Калі сена ёсьць мала, можна мяшаць бульбу з мешанінай доўгай сечкі з яравой саломы і сена. А калі сена няма зусім, дык на абмешку можна ўжываць самай толькі доўгай сечкі з яравой саломы, з гарохвін, пялюшкі і г. д. Зазначыць аднак трэба, што конь кармлены бульбай з закладкай сена можа працаваць і нават ня худзее. Кошт-жа такога кармленьня без параўнаньня ніжэйшы, чымся кошт кармленьня зярнём.

*Ці Вы ўжо аплацілі падпіску за II-ія паўгодкі? Зрабеце гэта найхутчэй пераказам разрахунковым на конто 40.*

hu adnaho miesiaca ličačy ad apošniaha dnia małaćby. Pakinuć sabie možna tolki hetulki, kolki patrebna dla pražyŭleńnia i na zasieŭ. Za ŭziatuju ŭ kaznu pšanicu sioleta viasnoj płacili pa 125 liraŭ za q (=100 kilo) miakkaj i pa 140 liraŭ za q ćviordaj pšanicy. Sioleta italjanskaja kazna vypłaciła svaim ziemlarobam za zabranuju pšanicu 6 miljardaŭ liraŭ, ci kala paŭtara miljarda załatovak.

Młyny mohuć kuplać pšanicu na pieramoł tolki ŭ kazionnych mahazynach, pry hetym takija ŭpavažnienyja młyny musiać vykupić peŭnuju, aznačanuju jak najmienšuju, čašć pšanicy.

Padobna jak na zboža, jość prymus addavańnia kaźnie j inšych praduktaŭ, naviet nie jadomych, napr. voŭny. Za kilohram voŭny italjanski praducent atrymoŭvuje 29 liraŭ (kala 7 załatovak) U 1936 h., kali jašče prymusu addavańnia voŭny nia było, było zabrana 5.618.774 kilahramy voŭny, što raŭniałasia 53 proc. ahulnaj pradukacyi. Dadzienych ab zbory za 1-šaje sioletniaje paŭhodździe jašče niama.

Hetkamu samamu prymusu addavańnia padlahajuć jadvabnyja kokony (žvitki syroha jadvabu). Pavodle zapeŭnieńnia „aficyjalnych čyńnikaŭ“ abaviazak addavańnia kaźnie jadvabu (šoŭku) praducenty pryniali vielmi rady (vidać z hetaha, što z nakazu addavańnia inšych praduktaŭ sialanie „niaradyja“— A. K.), bo... na volnym rynku z krajovym jadvabam vielmi silna konkuravaŭ jadvab japonski i navat kitajski. Za kilohram žoŭtych kokanaŭ kazna sioleta płaciła 7 liraŭ, a za kilohram kok naŭ biełych — 7 z pałovaj liraŭ (niaceŭyja 2 załatoŭki).

Pad prymusam tak-ža ad letašniaha 1936 hodu musiać italjanskija sialanie addavać kaźnie i kanopli, pradukcyja jakich uzmahajecca z hodu na hod, bo uzrastaje na ich zapatrebavańnie jak u krai, tak i zahranicaj.

Asobna ŭstanoŭleny paradak vykuplivańnia ryžu. Jość na heta asobnaja ŭstanova „Ente Nazionale Risi,“ jakaja dahetul aficyjalna „pryjmaje dobravolna“ padavanyja zapasy ryžu. Cikava, što ryž nia maje ŭstanoŭlenaj zakonam cany: skazana tolki, što cana pavinna być „naležnaj.“

Inšyja hatunki zboža i ziemlarobskich praduktaŭ tymčasam volnyja ad abaviazku prymusovaha addavańnia kaźnie.

Jak vidać z hetaha, italjanski praducent zboža j jadvabu (šoŭku) choć i maje zapeŭnienuju canu na svaje pradukty, to adnak nia moža karystać i z padvyški cany na volnym rynku, jakoha faktyčna ŭ Italii siahońnia niama.

Usio heta jość dokazam, što volny rynak siahońnia ahraničany nia tolki rasiejskim kamunizmam, ale i italjanskim fašyzmam.

*(Pavodle „Życie Rolnicze“).*

*Kutok dla ḩaspadyniaŭ*

## Vosień — sezon zbytu vyhadavanych kurej.

### Jak vybrać ptušku dla zbytu.

Nadychodzić vosień, para zbytu na ptušku, akazija dachodu z ptušnickaj haspadarki. Kali chto choča z jaje skarystać, pierahlańcie svajo kuračaje stada. Ciapier najpaźniejša ja para rašycca, jakija štuki pakinuć u siabie na druhi hod, a jakija praznačyć na zbyt. Naturalna, što dla raspłodu pakidajem tolki najlepšyja štuki, maładyja, zdaiovyja. Nie razumna pakidać na plem štuki starejšyja 3-ch hadoŭ, a taksama maładyja, ale słaba raźvityja. Nie vialikaja karyść budzie j z pradažy kurej niaŭdałych, chirlakoŭ, ale čym chutčej ich pazbudziemsia, tym lepš.

Zatoje niedapuścimym hrecham jošć pradavańnie najlepšych štuk z stada, bo choć i dastajecca hetak krychu bolš hrošaŭ, ale niščycca stada. Pakidajucca tolki horšyja, vybrakavanyja štuki — darmajedy, jakija ani sami nie dajuć nijakaj karyści, ani tymbolš nie daduć praz hod dobraha patomstva.

### Jak vyhadavać ptušku na zbyt.

Pryznačanyja na zbyt kury treba adpaviedna padhatoŭvać, kab atrymać za ich dobruju canu. Zaležna ad taho, jak staruju ptušku majemsia vykormlivać, vybirajem i kirunak hadoŭli. Maładyja kuraniaty, jakija jšče rastuć, hadujucca hałoŭnym čynam na miasa, a darosłyja štuki — na sała.

Zaležna ad taho, jak była kormlena kuryca pradtym, ułaścivy korm jaje tryvaje ad kalkich dzion da 6 ch tydniaŭ. Vykormlivańnie dobra trymanych i maładych štuk tryvaje karaciej (10—15 dzion), starejšych i zamoranych daŭžej (15 da 45 dzion).

Skład pašy dla ptuški zaleža ad kirunku hadoŭli. Kuraniaty, jakija hadujucca na miasa, patrabujuć pašy bahataj na białki (dadavańnie da pašy małaka j kryvi). Štuki darosłyja, jakija hadujucca na sała, mohuć abyjścisia i biaz hetaha dadatku i naahuł abyjścisia pašami mienš pažyŭnymi.

Hałoŭnaj pašaj kurej jošć miešanka šrotu roznaha ziernia z dadatkam kryvi j razredžanaja małakom abo vadoju na redkuju kašku. Małako ŭžyvajecca tolki žbiranaje, abo kvasnaje, ale nikoli padkisłaje, bryzłaje, bo takoje škodzić. Dziela taho, kali dajuć jaho prosta da ježy, možna pryhataŭlać jaje tolki hetulki, kolki kuraniaty za raz žjadajuć, abo razbaŭlać ziernie vadoju, a małako davać da pićcia asobna. Skład samoj miešaniny zaležyć naŭpierad ad taho, jakoje ziernie ŭ haspadarcy jošć, a jakoje treba dakupić. Najlepšaja miešanina z pšanicy, kukuruzy, aŭsa j jačmieniu, a navat i hračyšnych krup. Kukuruzy nia možna davać šmat, bo tady jana psuje miasa. Žyta abo zusim nie davać, abo kali j davać, dyk tolki nia mnoha, bo ad jaho psujecca straŭnaść kurynaha trybucha. Usiakaje sašratavanaje (zmołataje na hruba) ziernie lepš vykarystoŭvujecca čym ziernie całaje. Kolkaść pašy nie abmiežavanaja, bo što stracicca na pašy, toje znojdziecca ŭ časie karmleńnia. Małaka chapaje 1 litr na 8—12 štuk, kryvi pa 2 deka (20 gramaŭ) na štuku.

Vykarmlivańnie darosłych kurej roźnicca ad papiaredniaha tolki tym, užyvajecca pry hetym pašaŭ tańiejšych. Biez małaka j kryvi možna całkom abyjścisia, a taksama možna źmienšyć (ale nie skasavać!) i porcyju ziernia, 3-ciaja čašć jakoha zamianiajecca bulbaju. Za vialiki dadatak bulby apaźniaje vykarmlivańnie. U apošnich dniach vykarmlivańnia kurej dobra byvaje dadać da pašy pa łyžcy pieratoplenaha šmalcu. Usia ježa, jakaja tolki dajecca kuram i kuraniatam, byvaje raspuščana małakom ci vadoju na niahustuju kašu.

Nieabchodnyja składovyja častki kormu, ab jakich nia možna zabyvacca, a hałoŭnaje śviedama nia lohkavažyć, heta dadatak aharodniny, soli, hruboha piasku j dzieraŭlanaha vuhla. Aharodnina dadaje pašy smaku dy prydaje roznyja cennyja składniki (vitaminy!), jakich u inšych pašach niamašaka. Dajom jaje ŭ vidzie śviežaj ci sušanaj pasiečanaj krapivy, lebiady, kaniušyny, morchvy, burakoŭ, a zimoju — praroščanaha aŭsa. Sol taksama papraŭlaje smak pašy j padtrymlivaje traŭleńnie; tamu treba dadavać jaje vielmi mała, ale štodzień. Vuhal i piasok pamahajuć travić. Nia možna tak-ža zabyvacca pra čystuju śviežuju vadu, jakoj ptuška pavinna mieć davoli.

Na čas vykarmlivańnia ptuški, prynamsia na paślednija dni dobra byvaje abmiežyć jejny ruch, zamknuŭšy ptušku ŭ jakojś kamorcy abo kletcy, bo tady jana chutčej prybyvaje na vazie. Naturalna, pamiaščeńnie takoje nia moža być zusim ciomnaje, vohkaje abo dušnaje.

**Inž. O. D.**

## Гаспадарская хроніка.

**Азнака дня.** Праводжаная скрось праціжыдоўская акцыя насаджваньня купцоў — няжыдоў, ці гэтак званых „страганяжы“ на гэтулькі ўжо пашырылася, што паўстала патрэба арганізаваньня самых „страганяжаў“ (будачнікаў) у асобны саюз „Вясковых купцоў і страганяжы“. Новы Саюз саргані заваўся анагдай у Вільні і мае абыймаць сваей дзейнасьцю ваяводзтвы: Віленскае, Навагрудзкае, Палескае, Беластоцкае і Валынскае. Словам, усё гатова, толькі „ехаць“. А „страганяжам“ цяпер настае час экзаміну, паказаць, на колькі іхні гандаль лепшы ад гандлю жыдоўскага. Пабачым.

**Коопэратыва кошыкарская.** „Самапомач ужо пісала аб тым, што ў Вялейцы, дзякуючы прыватнай ініцыятыве, пачало разьвівацца кошыкарства: людзі садзяць кошыкарскую лазу, а ў самай Вялейцы існуе кошыкарская школа. Справа гэта з часам на гэтульки пасунулася наперад, што паўстала патрэба сарганізаваньня заінтэрэсаваных у асобную арганізацыю. Гэткая арганізацыя паўстала 19 г. м. ў Вялейцы ў форме асобнай кошыкарскай коопэратывы. Ёсьць гэта ў нас першая коопэратыва гэткага роду. У шчасьлівы час!

**Ліквідуюць.** Ад 1 кастрычніка сёл. ліквідуюцца гэтак званыя раземчыя ўрады („urząd rozjemczy“) ў справах земляробскага задаўжэньня ў Паставах і Шчучыне. Ад гэтага часу ўсе зацікаўленыя (ўласьнікі гаспадарак ніжэй 100 гэктараў) з павету Пастаўскага павінны зьвяртацца ў Глыбокае, а ўсе зацікаўленыя з павету Шчучынскага — ў Ліду.

**Штэмпляваньне запальнічкаў.** Міністэрства Скарбу прыпамінае, што 30 верасьня мінае срок упрошчанага штэмпляваньня запальнічкаў (па 1 зл. ад штукі). Пасьля гэтага дня, у кого будзе знойдзена нештэмпляваная запальнічка, той будзе моцна пакараны. Дальшае штэмпляваньне адбываецца ў скарбовых урадах.

# Што чуваць на сьвеце

## Сьмерць Т. Масарыка

14 верасьня сёл. ў замку на Лянах (Чэхаславаччына) памёр на 88 годзе жыцьця вялікі вучоны і палітык, першы прэзыдэнт адроджанай Чэхаславаччыны, праф. Др. Тамаш Г.-Масарык.

Нябожчык паходзіў з сям'і беднага фурмана і на так высокае становішча выйшаў дзякуючы сваім здольнасьцям, пільнасьці і высокай этычнасьці свайго характару. За заслугі, якія Масарык палажыў пры адбудаваньні дзяржаўнай незалежнасьці свайго народу, быў ён кожны раз выбіраны прэзыдэнтам рэспублікі. Ад гэтага высокага й зашчытнага ўраду адмовіўся ён прад двума гадамі, бо чуў што ападаюць ягоныя сілы. Народ-жа назваў Масарыка прэзыдэнтам — Асвабадзіцелям. — Пахараны Масарыка адбыліся пры вялікім наплыве людзей у аўторак 21 г. м. Т. Масарык як жыў скромна, так скромныя загадаў сабе і пахараны: на ціхіх вясковых могілках.

З прычыны сьмерці прэзыдэнта Масарыка, Беларускі Нацыянальны Камітэт выслаў на пісьме спачуваньне чэскаму Народу на рукі сучаснага прэзыдэнта Чэхаславаччыны праф. Д-ра Э. Бэнэша.

## На Сяродземным моры неспакойна.

Ужо колькі часу, як на цывільныя гандлёвыя караблі, якія плываюць праз Сяродземнае мора, нападаюць „няведамыя“ падводныя лодкі і аэрапляны і топяць іх, а пасьля ўцякаюць. Характэрна пры гэтым, што дагэтуль былі напады толькі на караблі ангельскія, савецкія і наагул на маемасьць тых дзяржаў, якія не памагаюць гішпанскім паўстанцам. З гэтае прычыны ангелійцы і французы склікалі ў швайцарскае мястэчка Ніон міжнародную конфэрэнцыю, на якой было пастаноўлена супольна бараніцца перад гэткімі патаемнымі нападамі. На гэту конфэрэнцыю былі запрошаны так-жа італьянцы і немцы, але ніводзін з іх на конфэрэнцыю ня прыехаў. А гэта таксама нешта знача.

## Вайна на Ўсходзе.

І далей галоўная ўвага зьвернена на падзеі ў самым Шанхаі і ў ягоных ваколіцах. Як кітайская так і японская старана атрымоўвуюць новыя сілы, з боку кітайцаў прыходзіць больш матарыялу людзкога, а з боку японцаў – больш уваружэньня. Гэтым хіба трэба тлумачыць і той факт, што японцы ўжо выперлі кітайцаў з першай і нават другой абароннай лініі каля Шанхаю. Але далей кітайцы йшчэ моцна трымаюцца. З абудвух бакоў адбываюцца частыя налёты аэрапляпаў, якія ўзаемна абкідваюцца бомбамі, а часам адбываюцца спатычкі і ў паветры, асабліва пад Нанкінам, стаўшы цяпер сталіцай нацыянальнага ўраду Кітаю. Японцы маюць намер збомбардаваць Нанкін і ня хочучы мець прыкрасьцяў з боку ад тых дзяржаваў, якія маюць у Нанкіне якуюсь маемасьць, паслалі ім у час адпаведнае паведамленьне. Дзеля таго аднак, што дагэтуль фармальнай вайны йшчэ няма — Японія называе сучасныя падзеі „карнай экспэдыцыяй,“ а кітайскі пасол дагэтуль сядзіць у японскай сталіцы Токіо — дык Англія і Амэрыка адмовіліся прыняць да ведама японскую перасьцярогу і заявілі, што калі іхнія людзі (англічане, амэрыканцы) пацерпяць неяк пры налёце аэрапляпаў, дык Японія будзе за гэта адказваць моральна й матар'яльна...

## Хацелі падкупіць.

У францускім порце Брэст стаяла падводная лодка гішпанскага ўраду. Падчас, калі большасьць матросаў была выйшла ў горад, у лодку прыйшлі некалькі незнаёмых людзей, якія „запрапанавалі“ камандзеру гэтай лодкі вялікія сумы грошаў, калі толькі ён аддасьць ім сваю лодку. А калі ён не згадзіўся, дык незнаёмыя пад страхам ужыцьця зброі вывелі камандзера з лодкі і хацелі з ім уцячы. Але француская паліцыя аднак напасьнікаў злавіла. Найцікавей аднак тое, што арганізатарам нападу аказаўся ваенны камэндант вокругу Ірун (гішпанскі паўстанец) майор Тронкосо, якога францускія ўлады арыштавалі. Адначасна з гэтым замкнулася француска-гішпанская граніца і наагул адносіны паміж Францыяй і паўстанцкай Гішпаніяй даволі моцна напружыліся.

## Схапілі сына Сталіна,

У мінулым тыдні нявыкрытыя дагэтуль людзі схапілі Сталінавага сына Васіля, калі ён варочаўся з школы, і вывезьлі ў няведамым кірунку. Усе стараньні савецкай паліцыі дагэтуль не далі ніякага рэзультату. Агульна дагадваюцца, што напад гэты зрабілі прыхільнікі Троцкага, якія ўжо быццам прыслалі Сталіну дамаганьне звольніць усіх „трацкістаў“; у праціўным выпадку пагражаюць быццам Сталіну, што ягоны сын Васіль будзе забіты.

## Укралі царскага генэрала?

У Францыі ёсьць вельмі шмат б. царскіх вайсковых, якія маюць там так-жа сваю арганізацыю. Першы старшыня гэтае арганізацыі генэрал Кутепов патаемна неяк згінуў у 1931 г. Дагадваюцца, што яго ўкралі й вывезьлі бальшавікі. Наступнікам Кутепова стаўся генэрал Мільлер. І гэты вось генэрал Мільлер прапаў анагдай таксама бязсьледна. Некаторыя газэты пішуць, што і Мільлера спаткаў лёс Кутепова. Можа й так, а можа й не..

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *24.IX.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 22.50—23.75 |
| Пшаніца . . . . . | 27.75—29.25 |
| Ячмень . . . . . . . | 19.00—20.50 |
| Авёс . . . . . . . | 19.25—22.50 |
| Грачыха . . . . . . | 19.00—20.00 |
| Лён трапаны, Валож. | 1590—1630 |
| Лён трапаны, Гародзей | 1790—1830 |
| Лён трапаны, Мёры | 850—890 |

*22.IX.1937.*

| | |
|---|---|
| Мука пш. I 0—50 прац. | 44.50 - 45.60 |
| „ „ I A0—65 прац. | 44.00—44.50 |
| „ „ II A 50—65 прац. | 32.50—33.00 |
| „ „ III 65—70 прац. | 27.50—28.50 |
| Мука жыт. I 0—50 прац. | 36.00—36.50 |
| „ „ I 0—65 прац. | 33.50—34.00 |
| „ „ II 50—65 прац. | 26.00—26.50 |
| Мука разовая да 95%... | 25.50 26.00 |
| Вотрубы пшонныя . | 15.25—15.75 |
| Вотрубы жытнія . . | 14.50—15.00 |
| Семя лянное Ь. 90% | 40.00 - 41.00 |

**Малочнае,** *15.IX.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 3.20—3.30 |
| „ „ дэталь | —3.60 |
| Масла сталовае гурт . | 3.10—3.20 |
| „ „ дэталь | —3.50 |
| Масла соленае, гурт. | |
| „ „ дэталь | |
| Сыр эмэнталь гурт. . . | 2.70—2.90 |
| „ „ „ дэталь | —3.40 |
| Сыр літоўскі гурт . . . | 1.50—2.20 |
| „ „ дэталь | 1.80—2.00 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 3.60—4.50 |
| „ ў дэталю за штуку | 7—8 гр. |

Przesyłka opłacona ryczałtem.



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Беларускі Нацыянальны Камітэт заклікае да асьветы і ахвярнасьці. — 14 верасьня сёл. адбыўся агульны надзвычайны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту, на якім была прынята наступная рэзалюцыя:

„Надзвычайны агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні дня 14 верасьня 1937 г., разгледзіўшы сучаснае палажэньне беларускае асьветы ў граніцах Польскае Дзяржавы, сьцьвярджае наступнае:

1. Беларуская народная асьвета прадстаўляецца гэтак:
   a) пачаткавае навучаньне беларускіх дзяцей у дзяржаўных школах праводзіцца папольску,
   b) адзіная ў краі сярэдняя беларуская школа — Беларуская Філія дзяржаўнае гімназіі ім. Юл. Славацкага ў Вільні ня можа здаволіць патрэбы беларусаў у галіне народнае асьветы.
2. Беларусы дамагаюцца навучаньня сваіх дзяцей у роднай мове:
   a) дзеля пачаткавага школьнага навучаньня падаюць школьным уладам дэклярацыі за беларускую школу,
   b) дзеля навучаньня ў гімназіях і ліцэях просяць дзяржаўныя ўлады адчыніць адпаведны лік гэтых школаў і роўналежныя клясы пры школах існуючых, а такжа робяць захады дзеля адчыненьня прыватных гімназіяў і ліцэяў.
3. Недастатак мэтодычнага навучаньня школьнага беларускія народныя масы дапаўняюць самаасьветаю, культывуючы беларускае слова, песьню і звычаі, а такжа цікавячыся здабыткамі і падзеямі ва ўсім сьвеце.
4. Агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту сьцьвярджае так-жа, што беларуская моладзь (у вялізарнай большасьці) на шляху здабываньня вышэйшай асьветы спатыкаецца з непакальнымі перашкодамі матарыяльнага характару.

Бяручы пад увагу вышэйсказанае, Беларускі Нацыянальны Камітэт заклікае ўсё беларускае грамадзянства далей:

1. Усімі спосабамі дамагацца для дзяцей сваіх беларускіх пачаткатвых школаў.
2. У справе сярэдняга школьніцтва — прадстаўляць і далей адносным уладам Польскае Дзяржавы патрэбы гэтага школьніцтва, з дамаганьнем адчыненьня гэтых школаў на кошт дзяржавы, а так-жа прыступаць да арганізаваньня прыватных беларускіх гімназіяў і ліцэяў.
3. У галіне зашкольнай асьветы — наладзіць фаховую помач у самаадукацыі шырокіх беларускіх масаў.
4. Дзеля падтрыманьня незаможнай але здольнай беларускай моладзі вышэйшых, сярэдніх і прафэсыянальных школаў, наладзіць супольную шырокую акцыю зьбіраньня матарыяльнай дапамогі".

— Сьмерць Б. Клецкіна. 18 г.м. памёр Барыс Клецкін, уласьнік „Віленскага Выдавецтва“, якое ў міжчасе 1922—30 г. выдала шмат і беларускіх кніжак, школьных падручнікаў і бэлетрыстыкі. У апошнія гады Б. Клецкін займаўся блізу выключна родным сабе выдавецтвам жыдоўскім, выдаючы ў год блізу па 200 кніжак. У жыдоўскім выдавецтве Б. Клецкін займаў перадавое месца.

— Японцы цікавяцца Беларусамі. У мінулым тыдні ў Вільні адведаў беларускія ўстановы і рэдакцыі некаторых беларускіх газэт японскі дыплёмат, цікавячыся беларускай мінуўшчынай і сучасным беларускім народным рухам.

— Сьмерць Ад. Зянюка. 23 г.м памёр у Вільні на 43 годзе Ад. Зянюк. Нябожчык за часоў студэнцкіх прыймаў учасьце у беларускім жыцьці. Па сканчэньні Віленскага Унівэрсытэту працаваў як судзьдзя ў Століне (Палесьсе) і пасьля аж у Сандоміры.

—o—

— Англіцкая мова. У бягучым 1937-38 школьным годзе ў 10-цёх школах Менска ўводзіцца навучаньне англіцкай мовы. У школах іншых гарадоў БССР навучаньне гэтай мовы залежа ад таго, ці знайдуцца на мясцох адпаведныя настаўнікі.

## З нашых сёлаў і мястэчак.

— Палацы для войтаў. Падчас калі газэты пішуць аб галадаваньні на Палесьсі, карэспандэнт „Kurjera Wilenskaha“ піша, што гэтыя-ж Палешукі будуюць для войтаў сапраўдныя палацы. „Я бачыў — піша ён — адзін гэткі будынак. Будынак? Ня будынак. Гэткай вільлі не пасаромілася-б ні Вісла, ні Юрата ні які іншы рэпрэзэнтацыйны жыхар. У гэтым будынку, натуральна, знаходзіцца памешканьне пана войта. Шкляная страха, усякія прыкрасы й выгоды!"..

Як відаць, паном войтам на Палесьсі жывецца нічога сабе.

– Чаго хоча Сьвянцянскі ОЗН? На адбыўшымся 22 г. м. акружным зьезьдзе ОЗН-у ў Сьвянцянах была вынесена пастанова м. інш: 1. бараніць інтарэсаў Польскага народу, 2. устрымаць (так!) прымусовую парцэляцыю, 3. „ународовіць“ і ўспамагаць гандаль польскі, 4. дапамагаць, каб Дзяржава абыймала дальшыя галіны прадукцыі (этатызацыя?!), 5. нішчыць уплывы бальшавіцкія і „хоцьбы толькі да іх зьбліжаныя“ (якія?) — Як бачым, Сьвянцяны перашчэгалялі нават і озонаўцаў Пастаўскіх.

## У Палякоў.

— „Фронт Морж“ мацуецца. Пад ведамай заявай Ігн. Падэрэўскага аб сучасным палажэньні ў Польшчы, як пішуць газэты, падпісваюцца цяпер многія польскія палітыкі з лагеру цэнтру. Падпісаная заява гэтая будзе перадана дзяржаўнаму Прэзыдэнту. — З тых-жа самых колаў паведамляюць і аб тым, што ў недалёкай будучыні трэба спадзявацца публічнага выступленьня ведамага эндэцкага дзеяча і ваякі ген. Галера.

— Ужо сарганізаваліся. Даўно ўжо гаварылася аб тым, што левыя элемэнты колішняй „санацыі“ хочуць сарганізавацца ў асобную групу. Гэткія групы ўжо паўсталі ў Кракаве і ў Варшаве. У Кракаве на чале арганізацыйнага камітэту стаў палкоўнік Вояkoўскі, а ў Варшаве праф. Міхаловіч, стары пэпэсавец. У гутарцы з прадстаўнікамі прэсы праф. Міхаловіч (лекар) скрытыкаваў сучасны ўрад за ягонае недацэньваньне дэмократычнага руху, зганіў эндэкаў і выказаўся за зьменамі структуры (будовы) грамадзкай.

— Ці зьменяць выбарны закон? Зьмена выбарнага закону ў польскі Сойм і Сэнат апошнім часам становіцца прадметам палітычных таргоў паміж рознымі палітычнымі згрупаваньнямі. З дагэтуляшніх гутарак ясна адно, што сяньняшняга польскага закону ніхто не бароніць. Ня роўныя аднак і дамаганьні зьмены. Падчас калі П.П.С. жадае павароту „старога“ выбарнага закону, з ягонай „пяціхвосткай“ (выбары: роўныя, агульныя, беспасярэднія, тайныя і прапарцыянальныя), эндэкі ўжо адкідаюць прапарцыянальнасьць і хацелі-б так забясьпечыцца прад „нацыянальнымі меншасьцямі, каб у кожным вокрузе „мець польскага прадстаўніка".

— Новая рэлігія Польшчы. „Jutro Pracy" орган б. прэм'ера палк. Слаўка, хвалючы сучасную польскую канстытуцыю (канстытуцыя гэта аснаўны закон дзяржавы), называе яе даслоўна „новай рэлігіяй Польшчы“. Іншыя газэты падлавілі гэту вестку і не бяз злоснай насьмешкі заўважваюць „...калі-б канстытуцыя з красавіка м-ца была ў нашых вачах рэлігіяй, дык кім тады стаўся-б ейны тварэц, палк. Славэк?“

## У Літоўцаў.

— 550-лецьце. Сёлета мінае 550 гадоў ад часу, калі Літва прыняла хрысьціянства паводле заходняга абраду. Газэты пішуць, што па ўсей Літве арганізуюцца з гэтай прычыны спэцыяльныя камітэты, якія сьвяткаваньне гэтых угодкаў будуць арганізаваць ужо сёлета і праз цэлы 1938 год.

## У Украінцаў.

— Юбілей „Просвіты". „Просвіта" гэта найстарэйшая і да сягоньня найважнейшая украінская культурна-прасьветная арганізацыя. У ёй радзіліся ўсе пачынаньні ня толькі пазьнейшых арганізацыяў і ўстановаў культурных, але так-жа й іншых, напр. гаспадарскіх. — Сягоньняшнія ўлады „Просвіты" абвесьцілі ўжо 1938 год годам юбілейным, бо ў гэтым годзе мінае 70 гадоў ад часу заснаваньня „Просвіты". Стан Т-ва на сягоньняшні дзень прадстаўляецца гэтак: сяброў — каля 200 тысяч чалавек, больш 3.200 чытальняў (з гэтага каля тысячы ва ўласных дамох). Галоўная дзейнасьць „Просвіты" гэта выдавецтва. Толькі за час 1919—1928 г., знача за 10 гадоў, „Просвіта“ выдала каля мільёна (так!) экзэмпляраў розных кніжак. — Да сьвяткаваньня юбілею „Просвіты" украінцы ўжо прыгатаўляюцца.

## Адказы Рэдакцыі.

Грам Я. Вышэмірскаму: Зусім з Вамі згаджаемся і, шчыра кажучы, не разумеем, па што было закладаць і весьці для тэй самай мэты часапіс другі, калі ўсё гэта можна аж надта лёгка зьмясьціць у часапісе адным. Вашу думку шчыра вітаем і што толькі ад нас залежа — зробім.

Аўтору „Беларускія Джымалы“. Вельмі шкода, што Вы так схаваліся за псэўдонім, што аніяк Вас ня можна знайсьці Пісьма Вашага, з зразумелых прычын, зьмясьціць ня можам. Разумем, што цяжка зносіць усё, што дзеецца кругом. Але ад таго-ж і перашкоды, каб іх перамагаць. Джымала затое й быў вялікім, што ўпарта свайго трымаўся. Дык трымаймася й мы! — Пішэце аб сваім жыцьці.

Спасюк Я.: Просьбу Вашу спаўняем. Толькі кніжка, якую просіце, каштуе ня 1.80 зл., а 2.50 зл. Таму за атрыманыя грошы высылаюцца Вам ня 5 а толькі 4 (чатыры) экзэмпляры. Ды й то йшчэ за Вамі астаецца 1 зл. доўгу. — Каталёг высланы разам з кнігамі.

„Самапомач“ выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"